**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 06 (827) 11 лютага 2016 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by



**Зміцер Бартосік, папулярны бард, паэт, а таксама журналіст Радыё Свабода, які рыхтуе цікавыя перадачы аб беларускіх вёсках і мястэчках, наведаў Празарокі. У школьным музеі яму правялі экскурсію. На здымку: дырэктар і педагог Вольга Дзмітрыеўна Гінько паказвае журналісту маляваны дыван Язэпа Драздовіча** 1943 г. *Фота Зміцера Лупача.*



ISSN 2077-8023



Віцебская вобласць

# Вось і прыплылі

■ Станіслаў Раманчук.

**Такіх цяжкасцяў і праблем, якія толькі прыбаўляюцца, дагэтуль беларуская эканоміка не ведала.**

Нават у параўнанні з правальным студзенем 2015 года, як адзначалася на нядаўняй рабочай нарадзе ў старшыні Віцебскага аблвыканкама, пачатак гэтага года ў Прыдзвінні аказаўся яшчэ больш трывожным. Вельмі шмат застарэлых балячак у сферы АПК, як высветлілася падчас абласнога семінара-нарады па жывёлагадоўлі, дзе больш сотні гаспадарак маюць даўгі па зарплаце. Дзяржава ўклала велізарныя сродкі ў мадэрнізацыю ААТ "Віцебскдрэў", але яго магутнасці не загружаны, зніжаюцца аб'ёмы вытворчасці. З лясной сыравінай у вобласці працуюць дрэнна, а 7 з 19 дзеючых лягсасаў увогуле не маюць дрэваапрацоўчых цэхаў. Як снежны ком, нарастаюць цяпер праблемы на 11 прадпрыемствах лёгкай прамысловасці Віцебшчыны. Услед за збанкрутаванай фабрыкай "КІМ" працэдуру санацыі пачаў праходзіць камбінат шаўковых тканін абласнога цэнтра. Больш-шасць жа прадпрыемстваў галіны сталі стратнымі, падаюць аб'ёмы вытворчасці, адчуваюць кадравыя праблемы нават вядомыя брэнды "Белвест", "Світанак", "Сан Марко", "Вітма" і іншыя. Многія дырэктары прадпрыемстваў у складанай сітуацыі разгубіліся і не займаюцца, як трэба, пошукам новых рынкаў збыту сваёй прадукцыі, каб выжыць. У студзені практычна спыніліся Лепельскі электрамеханічны завод, Варапаеўскі завод ЖБВ, Аршанскі завод "Легмаш", спіртзавод у Чашніцкім раёне. Узнікла шэраг праблем у Віцебскага маслаэкстракцыйнага завода, КУПП "Віцябчанка", Глыбоцкага, Мёрскага мясакамбінатаў і многіх іншых вытворцаў.

Віцебскі раён

# На шоп-туры да суседзяў

■ Кастусь Александровіч

**Пакуль айчынныя рынкі і гандлёвыя цэнтры застаюцца паўпустыя, многія прадпрымальныя суайчыннікі ўжо знайшлі выхад для сябе і сталі затаварвацца за мяжой.**

У прыватнасці, жыхары абласнога цэнтра і прыгранічных з Расіяй раёнаў яшчэ летась напрыканцы года сталі рэгулярна ездзіць за таварамі і прадуктамі харчавання ў суседні Смаленск. Адсюль з Віцебска дарога крыху больш 100 км, а найбольш папулярным стаў увогуле бясплатны шоп-тур, які арганізуе расійскі буйны сучасны гандлёвы цэнтр "Максі". Адзіная ўмова, што беларусам неабходна набыць у яго нях 110 магазінах і гіпермаркетах пад агульным дахам тавараў на суму не меней адну тысячу расійскіх рублёў і прадставіць адпаведныя чэкі вадзіцелю. Расіяне забіраюць віцяблян прама на прыпынках у горадзе, даюць некалькі гадзін, каб суседзі выбралі і купілі больш таннейшыя, чым у нас, тавары, выбар якіх большы, чым у Беларусі. Апошнім часам пачалі арганізоўваць такія паездкі для беларусаў за таварамі ў Расію і мясцовыя аўтапрадпрыемствы і асобныя віцебскія турфірмы. Праўда, у іх шоп-туры платныя і каштуюць ад 100 да 150 тысяч рублёў за праезд у абодва бакі. Дарэчы, калі дзяржава не зменіць правілы гульні на гэтым рынку, то яна рызыкуе апынуцца ў яшчэ большым пройгрышы, чым цяпер. Такія паездкі за таварамі аднавіліся і з аддаленых раёнаў вобласці. Па суботах, падобныя спецрэйсы ў Смаленск пачаліся і нават з Пастаў на камфартабельным аўтобусе "Neoplan" на 52 месцы для пасажыраў. Адзіная нязручнасць, што на дарогу, сам шопінг і на вяртанне дамоў пакупніку неабходна патраціць 19 гадзін.

Пастаўскі раён

# Спецгруз па моры і па сушы

■ Чэслаў Якубовіч.

**Магчымасці сучаснай тэхнікі і людзей зараз сталі сапраўды ўнікальныя, у чым пераканаліся днямі жыхары Пастаўскага раёна, якія сталі сведкамі транспарціроўкі ўнікальнага груза.**

Для айчыннага прадпрыемства "Гродна Азот" на заводзе ў Чэхіі вырабілі спецыяльную трубу-вежу даўжынёй 50 метраў і вагой 166 тон. Гэты буйнагабарытны груз спачатку сплаўляўся па рацэ Эльба, а потым прыплыў на караблі па Балтыйскім моры ў порт Клайпеды. Для далейшай перавозкі гігантскай канструкцыі вышынёй 7 метраў нанялі транспартную кампанію з Польшчы, якая год дэталёва распрацоўвала маршрут вельмі складанай лагістыкі. Па тэрыторыі Літвы гэты груз спецыяльны цягач на 224 колах і з магутным грузавікам MAN ззаду ў шчэпцы вёз па начах цэлы тыдзень з невялікай хуткасцю. Па шляху маршрута прыходзілася адключаць электрычнасць і дэманціраваць дарожныя знакі, светлафоры, аб'язджаць нетрывалыя аўтамабільныя масты. На беларускай тэрыторыі на пункце пропуску "Мольдзевічы" супергруз быў прапушчаны хутка і ў суправаджэнні машын ДАІ аўтапоезд паехаў далей. Той выхадны дзень стаў працоўным для работнікаў Пастаўскага РЭС, бо працавалі 5 брыгад электрыкаў і 3 аўтавышкі. На тэрыторыі раёна перакрываўся рух іншага транспарту, у 36 месцах на дарогах праводзіўся дэмантаж электраправадоў, а потым зноў іх злучалі. Як і суседзям-літоўцам нейкі час беларусам прыйшлося пражыць без электрычнасці. Далей пастаўчане перадалі самы цяжкі аўтапоезд сваім калегам на граніцы з Гродзенскай вобласцю і яшчэ праз некалькі дзён ён прыбыў на месца прызначэння на завод.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 11.02.16 | | | | Пятніца 12.02.16 | | | | Субота 13.02.16 | | | | Нядзеля 14.02.16 | | | | Пан. 15.02. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +4 | +4 | +3 | +2 | +1 | +1 | +3 | +1 | 0 | -1 | +2 | +2 | 0 | 0 | +2 | +1 | +2 | +2 | +5 |
| Ціск | 732 | 731 | 728 | 728 | 732 | 738 | 740 | 742 | 744 | 744 | 742 | 741 | 740 | 738 | 736 | 736 | 737 | 737 | 737 |
| Вецер м/сек | 10 Ю-В | 9 Ю-В | 10 Ю-В | 8 Ю-В | 9 Ю-З | 5 Ю-З | 4 Ю-З | 5 Ю | 5 Ю | 5 Ю-В | 5 Ю-В | 6 Ю-В | 6 В | 5 В | 4 В | 5 Ю-В | 6 Ю-В | 7 Ю-В | 3 Ю |
| Вільготнасць | 89 | 92 | 84 | 92 | 94 | 93 | 79 | 89 | 91 | 88 | 86 | 92 | 92 | 91 | 84 | 93 | 95 | 95 | 90 |

# Аб самым надзённым

## БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖБЮДЖЭТ СТАЎ НЕАКТУАЛЬНЫМ, "МЯДОВЫЯ ГАДЫ" СКОНЧЫЛІСЯ ДЛЯ ЎСІХ НАС

■ Аляксандр Цішкевіч.

**Дзе яшчэ ў свеце назіраецца такое, што за год з нечым, а дакладней за апошнія 14 месяцаў, у Беларусі яе грашовая адзінка дэвальвіравалася ў 2 разы. Ніякай стабільнасці, калі разабрацца, у краіне ніколі не было, паколькі за апошнія 19 гадоў беларускі рубель абясцэніўся роўна ў 1000 разоў.**

Апошнім часам нашы людзі ўжо прывыклі, што айчынная эканоміка пачала даваць збоі, і практычна ва ўсіх суайчыннікаў павялічыліся жыццёвыя цяжкасці. Аднак ніхто не чакаў, што сёлета напрыканцы студзеня ўслед за рэзкім абвалам курсу расійскага рубля з-за падзення цэн на нафту таксама імкліва аслабее і наша нацыянальная валюта. Раней такога яшчэ не было, каб за адзін дзень беларускі рубель здаваў свае пазіцыі адносна амерыканскага долара нават на адну тысячу. Дзе яшчэ ў свеце назіраецца такое, што за год з нечым, а дакладней за апошнія 14 месяцаў, у Беларусі яе грашовая адзінка дэвальвіравалася ў 2 разы.

А вось яшчэ пяцігодку назад, у 2010 годзе аўтарытэт нашага "зайчыка" быў зусім іншы, за аднаго "амерыканца" давалі тады 3 тысячы рублёў. Яшчэ нядаўна ў нас ганарыліся "беларускім эканамічным цудам", заяўлялі аб амбіцыйных планах давесці заробкі беларусаў да тысячы долараў, а ў выніку апынуліся мы з вамі зноў ля разбітага карыта, як у той пушкінскай казцы. Ніякай стабільнасці, калі разабрацца, у краіне ніколі не было, паколькі за апошнія 19 гадоў беларускі рубель абясцэніўся роўна ў 1000 разоў.

Як вядома, на 2016 год прагноз сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі і адпаведна дзяржаўны бюджэт распрацоўваліся і потым былі зацверджаны, зыходзячы з сярэднегадавога курсу долара 18600 рублёў. Атрымоўваецца, што гэта былі разлікі на пяску, якія змыла чарговай хваляй крызісу. Перажывае сур'ёзныя цяжкасці і таксама ідзе на дно і суседняя Расія з яе вялізнымі запасамі вуглявадародаў. Аднак не ад добрага жыцця яе правіцелі ў Крамлі заявілі, што сёлета РФ з-за бюджэтных цяжкасцяў адмовіць іншым краінам у прадастаўленні новых крэдытаў.

У спецыялістаў нават узніклі пытанні, ці хопіць у расіян фінансаў, пры далейшым дрэнным развіцці падзей, закончыць крэдытаванне ўзвядзення Беларускай АЭС пад Астраўцом і якім чынам беларусы будуць аддаваць яшчэ 10 млрд. долараў за гэту станцыю пры нашых вялізных замежных даўгах. З гэтай нагоды аўтарытэтны спецыяліст, былы кіраўнік Нацбанка Станіслаў Багданкевіч, папярэдзіў, што нічога добрага, калі ўлады тэрмінова не дамовяцца аб падтрымцы з боку МВФ, не чакае беларускую эканоміку і надалей. Пры гэтым варыянтаў далейшага развіцця падзей можа быць некалькі: ад курсу долара ў канцы года пад 30 тысяч рублёў (альбо 3 рублі ў новых банкнотах), так і ўжо летам у раёне 24-25 тысяч.

У чым згаджаюцца ўсе эканамісты, у любым выпадку наш рубель не адыграе свае страчаныя пазіцыі і не верне свой былы снежаньскі курс назад. Прычын цяперашніх цяжкасцяў некалькі, а галоўная ў тым, што існаваўшая доўга камандна-адміністрацыйная сістэма і нерынычная эканоміка сябе вычарпалі, не ўпісаліся ў сусветную эканоміку інавацый і нанатэхналогій. Членства Беларусі ў Мытным, а цяпер і ў Еўразійскім саюзе таксама сябе не апраўдалі, паколькі знешні гандаль унутры гэтага аб'яднання постсавецкіх дзяржаў з адсталымі тэхналогіямі скараціўся летась на трэць і болей.

У выніку Беларусь у мінулым годзе перажыла сур'ёзны эканамічны спад і страціла амаль 4% валавага прадукту. У прамысловасці падзенне было яшчэ большым, пад 7%, падалі і паказчыкі сельскай гаспадаркі, будаўніцтва, эфектыўнасць гаспадарання рэзка знізілася. Асобныя галіны, такія, як выпуск тэлевізараў, апынуліся на мяжы вымірання. У вельмі цяжкім становішчы знаходзяцца цяпер нашы машынабудаўнічыя гіганты МТЗ, МАЗ, "Гомсельмаш", БелАЗ, станкабудаўнічыя заводы, шклозаводы, швейныя і трыкатажныя фабрыкі, цэментныя заводы і нават прадпрыемствы дрэваапрацоўкі, хоць на апошніх шмат валюты ўклалі ў іх мадэрнізацыю.

Па-сутнасці, наша краіна вярнулася назад у цяжкія і сумныя 90-я, а "мядовыя гады" скончыліся для ўсіх, ад чыноўнікаў урада да працаўнікоў у глыбінцы. І вось што засмучае, ніхто не гаворыць аб пошуках шляхоў выхаду з крызіса, аб распрацоўцы антыкрызісных праграмы развіцця. З'явілася толькі чарговая, у многім дэкларатыўная праграма з 93 пунктаў мер урада і Нацбанка па забеспячэнню збалансаванасці макраэканомікі. У ёй адной з асноўных мер праўтварэнняў названа дыверсіфікацыя беларускага экспарту, з тым, каб на рынках іншых краін, акрамя збыту на прасторах ЕАЭС і ў ЕС, прадаваць да 27,5% айчыннай прадукцыі. Планы такія, безумоўна, добрыя, але ж каб такога дабіцца, як і паспяхова закончыць перамовы аб уступленні ў СГА, спатрэбіцца не адзін год.

З іншага боку, з-за новага абясцэньвання беларускага рубля выйграюць і нашы вытворцы-экспарцёры. Іх прадукцыя патаннее на знешніх рынках, яе стане прасцей прадаць, і беларускі экспарт крыху свабадней удыхне. Нам з вамі прыйдзецца прывыкаць да новых рэалій і зімірыцца з чарговым зніжэннем узроўню жыцця, як і з тым, што рэчавыя рынкі апусцелі усур'ёз і надоўга. З тым, што курс замежных валют пастаянна расце, беларусы ўжо звыкліся, прывыклі, і пакуль сітуацыя з цэнамі на нафту і ў нашага асноўнага гандлёвага партнёра, Расіі, не стабілізуецца, нічога не памяняецца і ў нас.

## Дзень за днём

**Прэзідэнт зноў адмовіўся праводзіць "так званыя рэформы". А. Лукашэнка зацвердзіў новую Ваенную дактрыну Беларусі, якая не будзе ўцягвацца ў іншыя знешнія канфлікты. Роўна праз 3 месяцы пасля прэзідэнцкіх выбараў зноў, як у 2011 годзе, абваліўся айчынны фінансавы рынак. За год колькасць беспрацоўных вырасла ў 2 разы. Беларусь рэзка на 10,4% павысіла тарыфы за паслугі па транспарціроўцы расійскай нафты. З пачатку года тарыфы ЖКГ падаражэлі на 8$ замест абяцаных 5. У краіне пачалі выяўляць асобныя выпадкі свінога грыпу.**

# Важнейшыя навіны свету

**ЗША**. Санкцыі, уведзеныя супраць Расіі, як паведаміў дзяржсакратар Д. Керры, могуць быць зняты на працягу некалькіх месяцаў у выпадку выканання Мінскіх пагадненняў.

**Англія.** Высокі суд Лондана абвінавацїў улады Расіі ў арганізацыі забойства са згоды Пуціна эксафіцэра ФСБ А. Літвіненкі, супраць РФ могуць увесці новыя санкцыі.

**Сірыя.** Па звестках заходняй разведкі, як паведаміла газета Financial Times, Пуцін прасіў Башара Асада пайсці ў адстаўку, але сірыйскі дыктатар гнеўна адхіліў гэту прапанову.

**Украіна.** Былы дарадца Пуціна А. Іларыёнаў пацвердзіў, што Крэмль пасля анексіі Крыма планаваў захапіць палову тэрыторыі краіны, уключаючы Кіеў, каб яна не пайшла на Захад.

**ЗША.** Расія ўвязалася ў адзіночку, як заявіў гісторык і вучоны Р. Дэрлуг'ян, у маштабнае супрацьстаянне з Захадам і рызыкуе разгромна прайграць, апынуцца на перыферыі свету.

**Расія.** Як толькі афіцыйны Мінск павернe ў бок Еўропы, папярэдзіў вядомы эканаміст С. Алексашанка, у той момант Беларусь далучаць да Расіі па аналогіі з крымскім сцэнарыем.

**Швейцарыя**. Былы віцэ-прэм'ер урада РФ А. Кудрын заявіў, што пік крызіса ў Расіі яшчэ наперадзе з-за падзення цэн на нафту, вырасце таксама беспрацоўе і колькасць бедных расіян.

**Таджыкістан.** Парламент краіны дазволіў нязменнаму "Лідару нацыі" з 1994 года Э. Рахмону перавыбірацца на пасаду прэзідэнта неабмежаваную колькасць разоў.

**Расія.** Прэзідэнт У. Пуцін абвінавацїў Леніна не толькі ў гібелі Расійскай імперыі, але і ў распадзе СССР, што абурыла камуністаў КПРФ, іх супакоілі, што ідала не будуць хаваць.

**Украіна.** Глава сепаратыстаў Данбаса А. Захарчанка пацвердзіў, што самаабвешчаная "ДНР" пачала выпуск уласных пашпартоў, але з гэтымі дакументамі пусцяць толькі ў РФ.

**ЗША.** У Массачусетскім тэхналагічным інстытуце, шэрагу медыцынскіх устаноў краіны пачаліся клінічныя выпрабаванні новага лякарства, якое дазваляе за паўгода вылечыць дыябет.

**Сірыя**. Праваабарончыя сірыйскія арганізацыі, як паведаміў расійскі палітык К. Баравы, кваліфікавалі бамбардзіроўкі мясцовых школ самалётамі РФ, як міжнароднае злачынства.

**Швецыя.** У адной з бальніц Гётэборга памерла ад нажавых раненняў 22-гадовая супрацоўніца цэнтра для бежанцаў, яе 15-гадовага забойцу затрымала паліцыя.

**Расія.** Услед за "Собеседником" тэлеканал НТВ выпусціў у прамым эфіры, праўда, толькі на Далёкі Усход матэрыял аб магчымым новым шлюбе былой жонкі Пуціна.

**Англія.** Папулярны тэлеканал ВВС паказаў свой фільм-расследванне "Тайныя багацці Пуціна", пра тое, як лідар РФ стаў адным з самых багатых людзей свету (40 млрд. USD).

**Расія.** Пасля рэзкага абвалу рубля, як паведаміла газета РБК, нават у аперацыйных касах банкаў Масквы пачаліся перабоі з набыццём наяўных долараў і еўра.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагентстваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Грамадзяне будуць атрымліваць грошы за дапамогу ў барацьбе з карупцыяй



■ Кар. БЕЛТА

**Грамадзяне будуць атрымліваць грошы за дапамогу ў барацьбе з карупцыяй, гаворыцца ў пастанове Савета Міністраў №101 ад 5 лютага 2016 года, паведамілі БЕЛТА ў прэс-службе беларускага ўрада.**

«Выплата ўзнагароджання і іншых выплат фізічнай асобе, спрыяе выяўленню карупцыі, праводзіцца ў выпадках: прадастаўлення інфармацыі, прадметаў і дакументаў, якія садзейнічалі выяўленню карупцыйнага злачынства; прадастаўлення звестак пра месцазнаходжанне асобы, якая ўчыніла карупцыйнае злачынства і якую адшукваюць; прадастаўлення інфармацыі пра месцазнаходжанне грашовых сродкаў і іншай маёмасці, атрыманых у выніку здзяйснення карупцыйнага злачынства; садзейнічання прадухіленню або кампенсацыі шкоды, нанесенай карупцыйным злачынствам; аказання іншага садзейнічання органам крымінальнага пераследу, якія меў значэнне для процідзеяння карупцыйных злачынстваў», – сказана ў дакуменце. Калі гаворка ідзе пра цяжкае ці асабліва цяжкае злачынства, то выплачваецца да 50 базавых велічынь, менш цяжкае - да 30 базавых.

«Выдзяляющца выплаты кампенсавальнага характару да 10 базавых велічынь на падставе дакументаў, якія пацвярджаюць выдзеленыя фізічнай асобай выдаткі», - адзначаецца ў дакуменце. Выплата прызначаецца пракуратурай на падставе хадайніцтва органа крымінальнага пераследу пры прыняцці рашэння па крымінальнай справе, што паступіла для накіравання ў суд і ў некаторых іншых выпадках. Пад фізічнымі асобамі тут не маюцца на ўвазе тыя, хто з'яўляецца вайскоўцамі або супрацоўнікамі дзяржорганаў і іншых арганізацый, якія змагаюцца з карупцыяй. Не распаўсюджваецца дзеянне дакумента і на ўдзельнікаў працэсу пры вытворчасці па крымінальных справах. «Выплата ўзнагароджання і іншых выплат не выдзяляецца фізічным асобам, якія аказваюць садзейнічанне ў выяўленні, спыненні, раскрыцці або расследаванні карупцыйнага злачынства, у здзяйсненні якога яны ўдзельнічалі», – падкрэсліваецца ў пастанове.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Існуючая мадэль будзе жыць, як заявіў эксперт В. Карбалевіч, пакуль у краіне не пачнуцца сацыяльныя катаклізмы, а эканамічны крызіс не перарасце – у палітычны.

**Барысаў.** Дзяржаўны камітэт маёмасці РБ зноў выставіў на продаж у 2016 годзе дзяржпакет акцый ААТ "БАТЭ" – упраўляючай кампаніі холдынга "Аўтакампаненты" і яшчэ 55 ААТ краіны.

**Мінск.** Эксперт НАН Беларусі вучоны Г. Грыц папярэдзіў, што існуе сур'ёзная пагроза дэпазітнай пірамідзе Нацбанка і ўвогуле ўсёй грашова-крэдытнай сістэме краіны.

**Баранавічы.** З-за адсутнасці заказаў большую частку рабочых мясцовага завода аўтаматычных ліній, каля паўтысячы чалавек адправілі ў вымушаныя водпуск.

**Гродна.** Калектыў ААТ "Гроднааблаўтатранс" завяршыў год са стратамі звыш 22 млрд. рублёў пры тратах на празмерны апарат упраўлення з 45 чалавек больш 10 млрд. рублёў.

**Мінск.** Мы будзем падаць столькі, як заявіў эканаміст А. Абуховіч, у багну беднасці, колькі будзем спрабаваць захаваць "беларускую мадэль", эканоміка ўпадзе на 20-25%.

**Смалявічы.** Датэрмінова выйшаў з турмы былы намеснік генпракурора Беларусі А. Архіпаў і ўзначаліў сельгаспрадпрыемства "Пятровічы", ён быў асуджаны на 6 гадоў.

**Гомель.** За незаконны загад і збіццё ў казарме маладога салдата суд на вызяным пасяджэнні ў часці пакараў сержанта, ураджэнца Брэстчыны, 2 гадамі абмежавання волі.

**Барысаў.** Пасля гібелі ад атручвання газам 6 чалавек, з іх двух дзяцей, следчыя пачалі высвятляць абставіны трагедыі і магчымай халатнасці спецыялістаў "Барысаўміжрайгазу".

**Мінск.** Сучасную базавую школьную праграму міністр адукацыі Беларусі М. Жураўкоў прапанаваў скараціць мінімум на 20-30%, пакінуць толькі самую неабходную інфармацыю

**Гродна.** На ААТ "Гродна Азот" пачалі будаўніцтва новага цэха азотнай кіслаты магутнасцю 1,2 тысячы тон у суткі з абсталяваннем Германіі, Чэхіі і Фінляндыі.

**Мінск.** Палітолаг А. Класкоўскі заявіў, што Крэмль, як прагаварыўся Пуцін, разглядае незалежнасць постсавецкіх краін, у тым ліку і Беларусі, як крыўдную памылку гісторыі.

**Быхаў.** У суд паступіла справа 37-гадовага жыхара райцэнтра за забойства ў салоне свайго аўтамабіля пенсіянера, раней за яго моцнае збіццё пасадзілі ў турму бацьку забойцы.

**Крычаў.** Суд пакараў арыштам на месяц двух жыхароў раёна ва ўзросце 20 і 27 гадоў, якія п'яныя зарэзалі ў вёсцы Маляцічы сабаку толькі за тое, што яе гаспадар не вярнуў ім доўг.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагентстваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Наваполацк.** З-за нізкіх цэн на нафту чысты прыбытак ААТ "Нафтан", які працуе пераважна на ўнутраны рынак нафтапрадуктаў, рэзка знізіўся за год да 15,1 млрд. рублёў.

**Віцебск.** Следчы камітэт затрымаў за атрыманне хабару намесніка начальніка абласной Дзяржаўтаінспекцыі, у адным з судоў таксама пачаўся разгляд справы былога начальніка ДАІ рэгіёна.

**Мёры.** На мясакамбінаце ўкаранілі тэхналогію ўльтрафіялетавай стэрылізацыі сыравіны, мясапрадукты ў вакуумнай упакоўцы з тэрмінам захоўвання месяц актыўна купляе Расія.

**Полацк.** Жыхару раёна прыйшлося выплаціць дадатковы падатак 31,7 млн. рублёў пасля набыцця ў Мінску двух кватэр без прыцягнення банкаўскіх крэдытаў.

**Гарадок.** Міліцыя адшукала і затрымала 40-гадовага раней судзімага лайдака, які ледзь не згарэў на пажары пры курэнні на ложку на чужой дачы, калі абкрадваў дачны домік.

**Багушэўск.** Пасля праверкі Дзяржкантролю за парушэнні ляснога заканадаўства звольнілі з пасад галоўнага ляснічага, начальніка цэха дрэваапрацоўкі і ляснічага ва Ульянавічах.

**Віцебск.** На дарогах вобласці летась адбылося 464 ДТЗ, у якіх 92 чалавекі загінулі, а 466 атрымалі розныя траўмы, у асноўным з-за язды на падпітку і перавышэння хуткасці руху.

**Бягомль.** Падчас адсутнасці гаспадароў у дом мясцовай 60-гадовай прадпрымальніцы прабраўся днём злодзей, адшукаў і скраў грошай і валюты на 300 млн. рублёў.

**Сянно.** Да радасці жыхароў райцэнтра ў спіс аб'ектаў "Дажынак-2016" унеслі будаўніцтва новага загса, яго ўзвядуць у цэнтры горада за кошт абласнога бюджэта.

**Сураж.** У рамках будаўніцтва Віцебскай ГЭС кітайскі інвестар выдзеліў сродкі для мадэрнізацыі паромнай пераправы, яе аснасцяць новымі гідраўлічнымі эстакадамі.

**Паставы.** Малочны завод правёў для пакупнікоў у сваім фірменным магазіне ў цэнтры горада дэгустацыю новых сыроў – знакамітых галандскіх "Гауда" і італьянскіх "Асьяга".

**Глыбокае.** У гарадскім цэнтры культуры прайшла вечарына з нагоды 10-годдзя зацвярджэння афіцыйных геральдычных сімвалаў – герба і сцяга райцэнтра.

**Лепель.** Мясцовы 60-гадовы вадзіцель патрапіў у рэанімацыю, калі з фурай пад вечар на трасе ў Літву на тэрыторыі Мядзельскага раёна зляцеў з дарогі і ўдарыўся ў дрэва.

**Браслаў.** У цяжкім стане даставілі ў рэанімацыю 77-гадовага пенсіянера, яго дома знайшла дачка з нажом у грудзях пасля п'янай спрэчкі з жонкай і спробы самагубства.

**Віцебск.** З гарадскога бюджэту выдзеліў 3 млрд. рублёў на набыццё сучаснага штучнага газону для цэнтральнага спартыўнага комплексу, дзе гуляе і трэніруецца ФК "Віцебск".

*Служба інфармацыі "ВГ" (ма матэрыялах інфармагентств і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Раней, пры немцах, дрэвы высякалі ўздоўж дарог, каб партызаны не здзейснілі дыверсію, а цяпер навошта?

■ **Уладзімір Скрабатун**

Здзяцінства запомніўся такі відарыс… У 1959-м годзе, калі аўтару было чатыры гады, і бацька, нарэшце, дабудаваў дом у Глыбокім, мы пераехалі з Прыперна, дзе кватаравалі, на сталае жыццё ў горад, на вуліцу, якая звалася імя Розы Люксембург (у 1960-я аб'ядналі з Маскоўскай).

Што адразу кінулася ў вочы ў самы першы ж дзень? Бярозавая алея – па два бакі вуліцы – з неймаверна вялізных дрэў! Яна пачыналася ледзьве не ад самага пераезда (ад мясакамбіната) і ішла ў бок Докшыцаў, ды хавалася за небасхілам.

Захапляльнае відовішча! Прыгажосць! Велізарныя, у два абдымы, высачэзныя, аж да сіняга неба, бярозы, – стаялі, як белая сцяна з чорнымі крапінкамі – паабапал брукаванага гасцінца. "Каньён"! Асабліва гэта ўражвала ранняй вясной, ці позняй восенню, калі яшчэ не было лістоты. Сапраўды – "каньён"!

Бярозы, чамусьці, звалі "кацярынаўскімі". Нібыта, ехала Кацярына II праз Глыбокае і загадала іх пасадзіць пры гасцінцы. Сумнеўна! Але, бяроза дажывае да 150 гадоў, і, меркавана, можна сказаць, што бярозы, усё ж, маглі пасадзіць у часы праўлення Кацярыны II. Але гэта, хіба, толькі ўсяго былі нарматыўныя дакументы тых часоў – будаваць гасцінцы і садзіць уздоўж іх бярозы.

Бярозы спілавалі пасля таго, як Гагарын паляцеў у космас. Ладна, старыя, аварыйныя… Але, з тых часоў і да сёння я так і не ўбачыў ізноў такіх вялізных і высачэзных бяроз, нават у Галубіцкай пушчы, куды часта наведваюся па грыбы…

Мой сусед, дарожны майстар Яўстафій Жук, 1907 г.нр, аднавіў бярозавыя алеі ў напрамку Прыперна новымі пасадкамі. Раслі гэтыя бярозы, раслі… Набіраліся моцы і вышыні… Не! Прыйшлі нядаўна нейкія людзі са шведкамі… Заміналі яны ім! Трэба, каб да небасхілу было чыста і нішто не захінала сонца! Папілавалі бярозы! Праўда, усё ж, не ўсе, нешта й пакінулі…

Не буду сцвярджаць, што аўтар – аб'ездзіў паўсвету, але: 1,5 года службы ў ЦГВ (г.зн, Чэхаславакіі) і 15 гадоў жыцця ў Латвіі – нешта ж бачыў! Можна і параўнаць! Там, уздоўж дарог, растуць – і ніхто не чапае – 200-гадовыя дубы, клёны, ясені. І нікому яны не замінаюць! Ці не на кожным дрэве – флікеры! Уночы, наколькі дазваляе далячыня асвятлення фараў аўта, дарога глядзіцца фантастычна! Ніхто, нават, выпадкова, у дрэва не ляснецца!

Пяць-сем гадоў таму Беларусь ахапіла нейкая "хвароба"! Па ўсёй краіне -- суцэльны лесапавал уздоўж дарог! Назіраў адзін падобны з вакон аўтобуса "Паставы-Вільня" ля Міхалішак, што на рацэ Вілія ў Гродзенскай вобласці. Тады ў прэсе было процьма падобных матэрыялаў з усёй Беларусі! Адрэагаваў, нават, Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка! Ён гнеўна выказаўся накont таго: навошта пілуеце тое, што пасадзілі нашы бацькі і дзяды? Лесапавал уздоўж дарог, у выніку, спыніўся!

Вы ўяўляеце? Едуць тысячы і тысячы людзей, а ў іх на вачах пілуюць двухвяковыя дрэвы! І ўсе задаюцца пытаннем: "Навошта? Якая ў гэтым патрэба? Дзе логіка?" Ёсць ж і прымаўка, як чалавек (мужчына) павінен пражыць жыццё: "Выгадаваць сына, пасадзіць дрэва, пабудаваць дом!" Дрэва, натуральна, метафара. Гэта можа быць і яблыневы сад, і парк, і алея ўздоўж дарогі.



**Прыдарожны лесапавал ля в. Мярэцкія.** *Фота Змітра Лупача.*

У нас, ізноў, пачалі пілаваць дарожныя прысады... Пры дарозе на Мярэцкія, напрыклад! Навошта? Растлумачылі нам, што каровам узімку патрэбныя вітаміны! А іх – шмат у хвої!

Так! Чытаем у даведніку: *"Ігліца апрацаваная парай, па пажыўнасці набліжаецца да сена. Ігліца яліны ўтрымоўвае прыкладна 0,24 кармавыя адзінкі і 8,6 г. пратэіну ў 1 кг, ігліца сасны – адпаведна 0,23 кармавыя адзінкі і 2,3 г., г.зн. блізкая па пажыўнасці да ячменнай і пшанічнай саломы.*

*Па канцэнтрацыі вітамінаў групы В ігліца сасны і яліны пераўзыходзіць вегетатыўныя органы зёлкавых і не саступае такім высокавітамінным культурам, як люцэрна, канюшына, лубін і інш."*

Усё дакладна! Ігліца багатая вітамінамі! Але, дарожныя прысады навошта пілаваць? Нават збіраць грыбы ўздоўж дарог не рэкамендуецца! Шмат усялякай атруты!

Праводзяцца ў лясах санітарныя вырубкі, праводзяцца вырубкі пад ЛЭП, нарэшце, калгас можа пасадзіць свае плантацыі ялінаў: што на вітаміны пойдзе, а што можна прадаць і на Новы год. Колькі цяпер зямлі пустуе!

Знішчылі дарожныя прысады па дарозе Мярэцкія-Удзела! І што – "красіва" стала? Не! Голае поле! Шмат экскурсантаў едзе ў Мосар... Любая дарога – частка экскурсіі! Можна ехаць праз голае поле з панурымі краявідамі, а можна ў "тунэлі" з вялікіх дубоў і клёнаў, ці праз золата асенніх бярозаў! Прыгожа? Так! І дарога запомніцца турыстам!

Аўтар, гіпатэтычна, мог бы ў лесе накапаць маладых дубкоў ды пасадзіць іх пры дарозе на Мосар, каб унукі, а перадусім, праўнукі, з гонарам сказалі: "Гэтыя дубы пасадзіў мой прадзед!"

Пасадзіць? Дык, калі не выкарчуюць адразу, то спілуюць потым!

# У Беларусі паляванне на ваўка вядзецца круглы год



■ **В.Е Катовіч,**
*дзяржаўны інспектар Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету.*

Воўк – адзін з самых буйных сучасных жывёл у сваім сямействе: даўжыня яго цела (без уліку хваста) можа дасягаць 160 см, даўжыня хваста – да 52 см, вышыня ў карку – да 90 см; маса цела можа даходзіць да 80 кг.

Калісьці воўк меў значна большы распаўсюд. У наш час яго арэал і агульная колькасць жывёл прыкметна паменшыліся, галоўным чынам, у выніку чалавечай дзейнасці: змены прыродных ландшафтаў, масавага знішчэння і іншых фактараў. У шматлікіх рэгіёнах свету воўк знаходзіцца на грані поўнага знікнення. Нягледзячы на тое, што папуляцыя ваўкоў працягвае памяншацца, ён дагэтуль у шматлікіх месцах з'яўляецца аб'ектам палявання, які ўяўляе патэнцыйную небяспеку для чалавека і хатняй скаціны, або дзеля забавы.

У якасці аднаго з ключавых драпежнікаў ваўкі граюць вельмі важную ролю ў балансе экасістэмы. Усяго вылучаюць прыкладна 32 падвіды ваўка, якія адрозніваюцца памерамі і адценнямі футра.

Воўк – досыць тэрытарыяльная жывёла. Пары, якія размнажаюцца, а нярэдка і зграі, жывуць асела на вызначаных участках, межы якіх пазначаюцца пахкімі пазнакамі. Дыяметр участка, занятага зграяй узімку, звычайна 30-60 кіламетраў. Увесну і ўлетку, калі зграя распадаецца, занятая ёю тэрыторыя падзяляецца на некалькі фрагментаў. Лепшы з іх захоплівае і ўтрымлівае асноўная пара, астатнія ваўкі пераходзяць на паўбадзяжны лад жыцця.

Пачуццё нюху ў ваўка развіта вельмі высока. Ён можа выявіць здабычу на адлегласці да 3 кіламетраў. Нюх у ваўкоў у 100 раз лепшы, чым у людзей. Ваўкі адрозніваюць каля 200 мільёнаў адценняў паху, людзі ўсяго толькі 5 млн. Праз пахі воўк атрымлівае вялікую частку інфармацыі. Працэс атрымання і перадачы такой інфармацыі, а таксама адпаведныя формы паводзін, звязаныя з запахавым абследаваннем партнёраў і пакіданнем запахавых пазнак, адыгрываюць у жыцці звера важную ролю. З наступленнем шлюбнага перыяду, які ў залежнасці ад шыраты прыпадае на студзень-красавік, у зграі нарастае напружанасць: самец і самка дамінантнай пары агрэсіўна ахоўваюць свайго партнёра ад іншых чальцоў зграі, а вакол маладых і старых адзінкавых ваўчыц збіраецца група самцоў, паміж якімі ўзнікаюць лютыя бойкі, парой са смяротным зыходам. Як толькі новая пара фарміруецца, самец і самка разам пачынаюць пошук месца для будучага зачацця і выводу нашчадкаў. У гэты перыяд, да наступлення цечкі, самец і самка ўсяляк заляцаюцца адзін да аднаго, трымаюцца побач і падлашчваюцца адзін з адным. У звычайных умовах за сезон зграя выводзіць толькі адно нашчадства, прычым бацькамі шчанюкоў выступае пара важакоў.

Ваўкі манагамныя, гэта значыць, на аднаго самца даводзіцца адна самка. Акрамя таго, для ваўкоў тыповы сямейны лад жыцця: яны жывуць зграямі ад 3 да некалькіх дзясяткаў – сямейнымі групамі, якія складаюцца з пары важакоў – альфа-самца і альфа-самкі, іх сваякоў, а таксама прышлых самотных ваўкоў. Пары ўтвараюцца на нявызначана доўгі тэрмін – датуль, пакуль адзін з партнёраў не гіне. Усярэдзіне зграі назіраецца строга пазначаная іерархія, на вяршыні якой знаходзіцца дамінантная пара, затым ідуць дарослыя члены сям'і, самотныя ваўкі і ў канцы шчанюкі апошняга прыплоду. Як правіла, інстынкт прымушае драпежнікаў шукаць сабе партнёра і тэрыторыю для размнажэння па-за сваёй зграяй. Рассейванне дасягнулых палавой сталасці звяроў адбываецца круглы год, і шчанюкі аднаго прыплоду звычайна разам не спарваюцца. Палавая сталасць настае на трэці ці чацвёрты год жыцця.

Актыўныя ваўкі пераважна ў начныя гадзіны, але нярэдка ваўка можна сустрэць і ў светлы час сутак. Пра сваю прысутнасць ваўкі нярэдка даюць ведаць гучным выццём, моцна адрозным у мацёрых самцоў, ваўчыц і маладняка. З вонкавых пачуццяў у ваўка лепш за ўсё развіты слых, трохі горш – нюх; зрок значна слабей. Добра развітая вышэйшая нервовая дзейнасць спалучаецца ў ваўкоў з сілай, спрытам, шпаркасцю і іншымі фізічнымі дадзенымі, якія падвышаюць шанцы гэтага драпежніка ў барацьбе за існаванне. Пры неабходнасці воўк развівае хуткасць да 55-65 км/г і здольны рабіць пераходы да 60-80 км за ноч. А разганяецца да галопу за некалькі секунд, пераадольваючы скачкі па 4 метры, пасля чаго ўжо нясецца, як віхор.



Нападаючы на статак, ваўкі часта рэжуць некалькі жывёл. Няз'едзенае мяса ваўкі пакідаюць пра запас, а ранняй восенню часта нападаюць на статкі хатняй скаціны, забіваючы на некалькі жывёл за раз з мэтай навучання паляванню маладых ваўкоў.

Псіхічна воўк высокаразвіты. Гэта выяўляецца ва ўменні арыентавацца ў сітуацыі і сыходзіць ад небяспекі, а таксама ў спосабах палявання. Высокаразвіта мастацтва ўжывання зграйных калектыўных дзеянняў. Вядомыя выпадкі, калі зграя ваўкоў падзялялася, і адна частка заставалася ў засадзе, а іншая наганяла на яе здабычу. У зграі, якая праследвае лася ці аленя, часта адны ваўкі бягуць па пятах ахвяры, а іншыя – напярэймы ці рухаюцца не спяшаючыся і, адпачыўшы, змяняюць перадавых, пакуль не возьмуць ахвяру зморам.

Воўк наносіць шкоду жывёлагадоўлі і паляўнічай гаспадарцы, але з іншага боку, грае важную ролю ў экасістэме, кантралюючы колькасць жывёл і знішчаючы слабых і хворых асобін. У апошнія некалькі гадоў заўважны значны рост ваўка, таму паўстала неабходнасць па зніжэнні колькасці дадзенага віду. Паляўнічым гаспадаркам варта прымаць меры па яго распаўсюдзе і рэгуляваць колькасць.

У Беларусі паляванне на ваўка вядзецца круглы год, здабыча якога дазволена пры любым законным знаходжанні ў паляўнічых угоддзях, у мэтах палявання пры гэтым забараняецца выкарыстоўваць прылады і спосабы палявання, якія не прадугледжаны ў дадзеных тэрміны для палявання на паляўнічых жывёл, здабычу якіх можа ажыццяўляць паляўнічы ў адпаведнасці з паляўнічай пуцёўкай і (ці) дазволамі і на здабычу паляўнічай жывёлы і паляўнічымі пуцёўкамі да іх. Грамадзянам незалежна ад наяўнасці ў іх дакументаў на права палявання дазваляецца здабыча ці знішчэнне любымі спосабамі (акрамя агульнанебяспечных) ваўкоў, лісіц, янотападобных сабак, якія зайшлі на тэрыторыю населеных пунктаў. Гэта робіцца з мэтай зніжэння папуляцыі жывёл, якія наносяць шкоду жывёлагадоўлі і паляўнічай гаспадарцы.

Аб усіх парушэннях прыродаахоўнага заканадаўства вы можаце паведаміць па тэлефоне даверу – 8(02156)2-86-70, ці на мабільныя тэлефоны: МТС 897-23-02, МТС 890-55-28, МТС 249-45-49, МТС 645-66-78.

# Як аберагчы сябе і сваіх дзяцей ад заражэння шаленствам

**Шаленства – гэта адно з самых небяспечных інфекцыйных захворванняў, якое выклікаецца вірусам і перадаецца іншым жывёлам і людзям са слінай хворых жывёл – пры ўкусах, драпінах, а таксама забруджванні слінай пашкоджанай скуры і слізістых абалонак.**

■ **Лілія Барэйка,** *памочнік урача-паразітолага Глыбоцкага РЦГЭ*

Хворыя жывёлы вылучаюць вірус са слінай ужо ў апошнія дні інкубацыйнага перыяду і на працягу ўсяго перыяду хваробы, аж да іх гібелі. Хварэюць як хатнія, так і дзікія жывёлы (практычна ўсе віды наземных млекакормячых, у першую чаргу – драпежныя жывёлы). Могуць таксама хварэць птушкі, грызуны, кажаны.

Аб шаленстве ведалі старажытныя грэкі, арабы, індзейцы, славяне, габрэі яшчэ за тысячы гадоў да н.э. У тыя далёкія часы жывёл з падазрэннем на шаленства, забівалі, а імі пакусаны чалавек заўсёды быў асуджаны на смерць. Сёння, калі вядомы ўзбуджальнік і спосабы прафілактыкі, калі лекарам дапамагае сучасная апаратура, папярэджанне шаленства стала не такім складаным, як яшчэ сто гадоў таму, аднак пагроза хваробы, па-ранейшаму, існуе паўсюль і да цяперашняга часу не ўхіленая.

За 2015 год у Глыбоцкім раёне выпадкаў шаленства сярод жывёл і зваротаў па медыцынскую дапамогу з прычыны кантакту з хворымі на шаленства жывёламі не зарэгістравана (за 2014 год шаленства зарэгістравана ў 1 хатняга сабакі, і з прычыны кантакту з хворым на шаленства сабакам па медыцынскую дапамогу звярнулася 4 чалавекі).

За 2015 год у раёне па медыцынскую дапамогу з прычыны ўкусаў, абслюнення і адздзёртасці жывёламі звярнулася 110 чалавек, у т. л. дзяцей да 14 гадоў – 35 (за 2014 год – 95, у т. л. дзяцей да 14 гадоў – 26).

За 2015 год ад укусаў сабак пацярпела 82 чалавекі, ад катоў – 24, ад дзікіх жывёл – 2, ад сельскагаспадарчых жывёл – 2 (за 2014 год ад укусаў сабак – 68, катоў – 18, дзікіх жывёл – 3, сельскагаспадарчых жывёл – 6).

Штогод каля 30% ад тых, хто звярнуўся па медыцынскую дапамогу з прычыны ўкусаў, абслюнення і абдзёртасці жывёламі, складаюць дзеці.

Улічваючы, што шаленства невылечнае, дарослым трэба распачаць усе меры па папярэджанні заражэння дзіцяці. Варта дзецям з ранняга ўзросту тлумачыць, што не варта гуляць з незнаёмымі сабакамі і катамі.

Дзеці павінны ведаць, што жывёлы рэдка нападаюць на людзей, калі іх не чапаць. А справакаваць жывёлу можа нават самае нязначнае жаданне яго пагладзіць. Таму, як бы дружалюбна жывёла не паводзіла сябе, ніколі нельга спрабаваць яе прылашчыць. Што тычыцца дзікіх жывёл, то, як правіла, здаровыя дзікія жывёлы пазбягаюць сустрэчы з чалавекам. І калі дзікая жывёла з'яўляецца ў населеным пункце, то можна з упэўненасцю выказаць здагадку, што яно хварэе на шаленства. Вожыкі і дробныя грызуны таксама могуць быць пераносчыкамі шаленства.

Не варта падбіраць на вуліцы бяздом-ных катоў і сабак, а калі ўзялі, то трэба за кароткі тэрмін паказаць жывёлу ветэры-нарным урачам і зрабіць яму прафілактычную прышчэпку супраць шаленства.



Для папярэджання распаўсюджвання захворвання на шаленства сярод жывёл і людзей неабходна выконваць устаноўленыя правілы ўтрымання хатніх жывёл (сабак, катоў):

■ штогод прышчапляць іх супраць шаленства;

■ выгульваць сабак у наморднiку і на павадку (сабак патэнцыйна небяспечных парод непаўналетнім выгульваць наогул забараняецца).

У тых жа выпадках, калі кантакту з жывёлай пазбегнуць не ўдалося, а менавіта пасля ўкусу, ранкі, драпіны, абслюнення пашкоджаных скурных пакроваў, слізістай абалонкі вачэй, поласці рота, носа, а таксама пры судотыку з якім-небудзь прадметам ці адзеннем, забруджанымі слінай падазронай на шаленства жывёлы, трэба старанна прамыць рану на працягу не менш за 15 хвілін струменем вады з мылам, краі раны апрацаваць 5% настойкай ёду і неадкладна звярнуцца ў лячэбную ўстанову па месцы жыхарства для атрымання першаснай медыцынскай дапамогі і ў хірургічны кабінет Глыбоцкай паліклінікі ці ў прыёмны пакой Глыбоцкай бальніцы, а таксама ў любую медыцынскую ўстанову за межамі Глыбоцкага раёна, для вырашэння пытання аб прызначэнні курсу антырабічных прышчэпак. Толькі ўрач (хірург, траўматолаг) ацэніць рызыку магчымага заражэння вірусам шаленства і прызначыць пры неабходнасці курс прышчэпак.

Прышчэпкі і па сённяшні дзень застаюцца адзіным надзейным сродкам абароны людзей ад захворвання на шаленства. Аднак эфектыўнасць імунізацыі напрамую залежыць ад своечасовага (на працягу сутак) звароту па медыцынскую дапамогу.

Ні ў якім разе не варта адмаўляцца ад прызначанага лячэння і самавольна спыняць яго. Гэта можа прывесці да трагічных наступстваў. Вельмі важна не забіваць хатнюю жывёлу, якая пакусала або абдзёрла якога-небудзь чалавека з мэтай захавання магчымасці арганізацыі за ім 10-ці дзённага ветэрынарнага назірання.

Прышчэпачны курс, з улікам вынікаў назірання за хатняй жывёлай (сабакам або катом), можа быць скарочаны па рашэнні ўрача, калі жывёла за перыяд назірання засталася здаровай.

**Дарослыя! Запомніце самі і навучыце сваіх дзяцей мерам засцярогі пры абыходжанні з жывёламі.**

# Бяспека прымянення электраабсталявання для абагрэву

**Наступленне халадоў напрамую звязана з павышэннем рызыкі ўзнікнення пажараў.**

■ **А. Крывёнак,** *дзяржаўны інспектар па энергетычным наглядзе*

Адсутнасць ацяплення або яго нездавальняючая якасць прымушае людзей шукаць альтэрнатыўныя крыніцы цеплавой энергіі. І часцей за ўсё ў выглядзе такіх выступае электрычнае абсталяванне для спажыўцоў.

Зусім не абавязкова ўжываць толькі няспраўныя ўстаноўкі, каб падвергнуцца рызыцы непрадбачаных сітуацый. Часам і рабочыя прыборы даюць збоі. Таму перад кожным уключэннем абсталявання яго трэба добра агледзець на магчымыя пашкоджанні. Увагу трэба надаць шнуру і зоне яго судакранання з механізмам.

Пры ўваходжанні вілкі ў разетку нічога не павінна іскрыць, а апарат абавязаны працаваць без лішняга шуму і перабояў у працы.

Уладальнікаў электраабсталявання для абагрэву павінен насцярожыць той факт, што пры ўключэнні прыбора ў сетку святло ў жыллі пачынае мігаць або засцерагальнікі зусім выбівае. Гэта сведчыць аб тым, што энергасетка не вытрымлівае нагрузкі, што можа стаць прычынай узгарання.

Не менш трывожны сімптом – пах гарэлага альбо пластмасы, што плавіцца. Гэта могуць гарэць праводка, шнур сілкавання агрэгата або яго функцыянальныя ўнутраныя элементы.

У пералічаных выпадках рэкамендуецца абясточыць прыбор. Але за шнур голымі рукамі хапацца нельга. Хай гэта будуць гумовыя цеплаізаляцыйныя пальчаткі. З іх дапамогай атрымаецца пазбегнуць як цеплавога, так і электрычнага апёку. Важна, каб гэтыя прадметы знаходзіліся ў зоне даступнасці кожнага члена сям'і. Бо часам кошт ідзе на секунды, дзе часу тэлефанаваць і шукаць рэч проста ўжо няма.

Трэба папярэдне паклапаціцца аб доступе да засцерагальнікаў. Калі не атрымліваецца абясточыць абсталяванне, то можна адключыць ад сілкавання ўсю кватэру. Менавіта з гэтай прычыны людзі аддаюць перавагі сучасным прыладам з аўтаматам. У выпадку экстранай аварыі будзе дастаткова націснуць адну кнопачку. І хапацца за разагрэтую кераміку зусім не прыйдзецца.

Калі прынята рашэнне пакідаць жыллё, то дзверы на балкон ці створку акна адкрывайце павольна, так як рэзкі доступ кіслароду можа прывесці да выбуху.

Нельга панікаваць і мітусіцца. Тут важна памятаць, што чым хутчэй знойдзецца тэлефон і адбудзецца званок пажарным, тым менш бедстваў наробіць полымя.



# З 11 лютага змяняецца частата вяшчання тэлеканалу «Белсат» на спадарожніку «Astra 4A»

**11 лютага тэлеканал «Белсат» праз тэхнічныя прычыны вымушаны змяніць частату вяшчання на спадарожніку «Astra 4A». Што трэба зрабіць, каб «Белсат» застаўся ў вашым тэлевізары?**

Нічога складанага!

1. На вашым пульце або спадарожнікавым рэсіверы ўвайдзіце ў МЕНЮ
2. Знайдзіце там НАЛАДКІ АНТЭНЫ
3. Выберыце опцыю РУЧНЫ ПОШУК КАНАЛАЎ і ўвядзіце параметры новай частаты – 12 303 МГц, гарызантальная палярызацыя (12303H). Дадатковыя параметры: мадуляцыя DVB-S, FEC 7/8, SR 25546. Як варыянт вы можаце таксама выбраць АЎТАМАТЫЧНЫ ПОШУК КАНАЛАЎ і дазволіць рэсіверу самому абнавіць спіс усіх каналаў
4. Прызначце «Белсату» запамінальны нумар каналу. Чаму б не кнопку «1»?)

Прыемнага прагляду!

## Віншаванкі

*Тамара Іванаўна Яніцэвіч*

***(в. Завараты)***

Дарагая матуля і бабуля
Віншуем цябе з юбілеем!

Дни бегут, как ветер, без оглядки,
Светит солнце и метут снега.
Только, знаешь, на любом десятке
Ты для нас всё так же дорога.
Всем нужна, никем не заменима,
Любим очень-очень мы тебя.
Пусть печали пронесутся мимо,
Будь здорова, береги себя.

*Дзеці, унукі*

## МНС інфармуе

**на 09.02.2016 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 93;
Гібель людзей – 19, з іх дзяцей няма;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 2;
Гібель людзей – 2, з іх дзяцей няма
За 2015 год у раёне адбылося 36 пажараў, на якіх загінулі 3 чалавекі.

